Пра Мікалая Мікітавіча Пушкара расказваць няпроста, хаця чалавек ён незамкнёны, адкрыты, шчыры і даверлівы. Жыццё ў яго багатае і цікавае. З ім можна прагаварыць цэлую ноч і не заўважыць, як у акно пачне стукацца раніца. А ў майстэрні цябе паглынае цуда гліняных вобразаў, якія выходзяць з-пад нястомных рук майстра, і тады ўжо здаецца, што яны ажываюць, пачынаюць смяяцца і спяваць...

Мастак-кераміст Мікола Пушкар жыве ў старадаўнім палескім гарадку Мазыры. Горад даўно стаў для яго родным і блізкім па духу, хаця нарадзіўся ён на Украіне, на другім годзе пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Бацькоў сваіх амаль не памятае. Ведае толькі, што бацька меў нейкае дачыненне да мастацтва — рабіў абразы, працаваў багамазам.

На ўсё жыццё запомніліся цяжкія і галодныя гады дзяцінства, калі блукаў ад вёскі да вёскі, каб у добрых людзей раздабыць кавалак хлеба. А потым так сталася, што хлапчук апынуўся ў працоўнай калоніі імя Горкага, якую ўзначальваў выдатны педагог А. С. Макаранка. Гэта і змяніла яго жыццёвы шлях. Пасля заканчэння Харкаўскага мастацкага вучылішча ў 1937 годзе М. Пушкар выкладаў маляванне ў школе. Вучыў дзяцей не толькі пераносіць жыццё на паперу, але і рабіць добрае і прыгожае на зямлі, быць чулым і спагадлівым да людзей, да ўсяго жывога, што акружае чалавека. Калі ж бачыў, што нехта з дзяцей вылучаўся ўменнем маляваць, радаваўся за яго, усяляк дапамагаў развіваць талент.

А потым вайна, у цяжкім баі параніла і кантузіла. Канцлагер. Цудам выжыў, разам з іншымі дачакаўся таго радаснага дня, калі байцы Чырвонай Арміі ўварваліся ў лагер і выратавалі ад смерці...

Пасля вайны жыў у Калінінградзе. Там і пачаліся яго першыя крокі як кераміста. Працаваў ён побач з добрымі і спагадлівымі людзьмі. Аднойчы ненарокам завітаў у майстэрню мясцовага кераміста, завітаў

і здзівіўся яго работам. Не вытрымаў, папрасіў кавалачак гліны, дома аж да раніцы «чараваў» над ёй, пакуль не атрымалася тое, што хацеў,— вобраз рыбака. Керамісту работа спадабалася. Фігурку абпалілі ў печы, а праз нейкі час яна папала на выстаўку ў Польшчу. Вось з такім першым поспехам і прыехаў Пушкар у Мазыр.

Напачатку гліна цягнула як творчы занятак. Тады ён і ўявіць не мог, што гэта можа быць яго асноўнай работай. Працаваў на заводзе мелія-





ДРЫВАСЕК. 1968.
Тэракота.

ДЗЯДОК. 1968.
Тэракота.

ГЛІНА СПЯВАЕ. 1977.
Тэракота.



МУЗЫКІ. 1970.
Тэракота.

ВЯСЁЛАЯ СЯМЕЙКА. 1966.
Гліна, паліва.



рацыйных машын мастаком. Цэлы дзень — там, раніцай і вечарам — у сваім двары. Мяў і мяў гліну. Мовай мастака можна сказаць, што ён авалодваў жанрам дробнай пластыкі — рабіў фігуркі людзей і звяроў. Зробіць — спадабаецца, а калі вечарам вяртаўся дадому і ацэньваў іншым, прыдзірлівым вокам, то работа здавалася бездапаможнай, вялай. Раніцай ляпіў, а вечарам разбіваў — не падабалася. І так адзін дзень, другі... Але ён не адступаўся ад свайго — шукаў і шукаў тое, што было ў думках.

На той час у Мазыры быў вялікі крыты рынак. Любіў зазірнуць туды



Пушкар. Аднаго разу запаў у душу дзядок, які прадаваў з бочачкі мёд, а потым маладзіца — родам дзесьці з-пад Лельчыц. Асабліва ж уразіў яго сівы, мо за сто год, дзед — вясёлы, гаваркі, дасціпны. Цэлыя вершы-паэмы чытаў пра сваю гліну, з якой зрабіў макітры і гладышы...

Гадзіну назіраў за ім Пушкар, другую. І тады як што асяніла: «Во мая тэма, вось каго ляпіць трэба!..» Пальцы, як даўно намечанае і вынашанае, вылепілі таго старога, ды так удала і трапна, што на твары Пушкара міжволі засвяцілася ўсмешка. Паляшук затоена падміргваў, нешта

СПЕВАКІ. 1967.
Тэракота.

НЕСЦЕРКА. 1974.
Тэракота.

ДА ЦЁШЧЫ НА АЛАДКІ. 1975.
Тэракота.



хітрае і смешнае таіў у сваёй кудлатай барадзе, быццам пасміхаўся, што так доўга хадзіў аўтар фігуркі за сваімі тэмамі і сюжэтамі, а тут за такі кароткі час адбылося неверагоднае. У ім было штосьці ад палескай зямлі яе працавітых і нястомных людзей.

Вось тады адчуў і зразумеў Мікалай Мікітавіч — галоўным героем будзе Паляшук, бо жыццё яго мае шмат адценняў і рысаў характару. Яно спакойнае і бясконцае ў сваёй мудрасці, пакладзістасці, як цячэнне





старажытнай Прыпяці, журботнае і самотнае, як тужлівы крык жорава, які пакідае родны край і павінен ляцець у невядомую далячынь, вясёлае і дасціпнае, з хітрынкай і радасцю, якое толькі і можа быць у палешука. Яго жыццё — неразвязаны вузел радасці і бяды, суму і песні — невычэрпная крыніца творчасці.

Міжволі М. Пушкар цікавіўся і гісторыяй Беларусі, чытаў паданні, казкі. Мастака ўражвалі і натхнялі літаратурныя вобразы Сымона-музыкі, Лявона і Лявоніхі, Тараса на Парнасе, Несцеркі, Бандароўны, сівога гусляра... У марах жылі, стукаліся ў сэрца вобразы вясёлыя, смешныя і

няўрымслівыя. І ён ужо не мог пазбавіцца ад іх, рукі прасілі гліны.

«Паляшук-лапатнік», «Каваль», «Дрывасек» і дзесяткі іншых работ Мікола Пушкар прысвяціў тэме працы, бадай, галоўнай у сваёй творчасці. А колькі жанравых сцэнак-апавяданняў, насычаных дабрадушным гумарам, непадробленай праўдай жыцця, выйшла з-пад яго рук! Чаго там толькі няма — і колішні побыт палешукоў, і народныя гулянні, паданні, казкі, легенды, анекдоты пра цешчу, прымакоў і выпівох — «Пасварыліся»,



«Дудар», «Жылі стары са старою», «Церабавец», «Да цешчы на аладкі», «Браткі-беларусы». Некаторыя творы апавядаюць пра цяжкае мінулае палескага краю і яго жыхароў, пра іх клопаты, надзеі. Але гэтай тэме мастак як бы супрацьпастаўляе сённяшні дзень. Таму па-іншаму гучыць мелодыя ў вобразах «Прыпяцкі капітан», «Паляшук з транзістарам», «Савецкі волат». Калі глядзіш на фігуркі кераміста, здаецца, слоў не трэба, зразумела ўсё і так, і гэта яшчэ раз даказвае, што ён умее кранаць нябачныя струны чалавечай душы, што ў яго шырокі дыяпазон творчасці.

Створаныя мастаком вобразы напаўняюць палескае жыццё новым, больш глыбокім, змястоўным гучаннем, з подыхам летніх навальніц, птушынымі спевамі, клекатаннем буслоў — і ва ўсё гэта ўплятаецца мажорная мелодыя з добрымі надзеямі на заўтрашні дзень.

Настаў час, калі Пушкар вырашыў паказаць свае работы членам ма-

ВЯЧОРКІ. 1969.
Тэракота.

СУСЕДЗІ. 1969.
Тэракота.



ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ НА ВЁСЦЫ. 1976
Тэракота, рэльеф.

МАЗЫР. 1976.
Тэракота, рэльеф.



МЕЛОДЫІ ПАЛЕССЯ. 1976. Тэракота.

УДАВЕЦ. 1979. Тэракота.



стацкага савета абласной арганізацыі Саюза мастакоў у Гомелі. Многія з іх былі адобраны. Так адкрыўся шлях да выставак: абласных, рэспубліканскіх, усесаюзных. Яго творы бачылі ў Польшчы, Манрэалі, на сусветнай выстаўцы «ЭКСПО-70» у Японіі, Чэхаславакіі. Лепшыя адзначаны прэміямі. Да мастака прыйшло прызнанне. Трэба адзначыць, што ён не ўпадае ў даніну моды і часу, у павярхоўную стылізацыю, працуе над сваімі творамі не толькі ўносячы ў іх нацыянальны каларыт, а і народнае ўспрыняцце багацця і разнастайнасці жыцця з яго супярэчлівасцю, недахопамі, радасцю і камедыйнасцю.

У Міколы Пушкара талент арыгінальны і своеасаблівы. Ён працуе ў тэракоце, рэдка — за выключэннем адной-дзвюх работ — у шамоце, пры-

ВЯЧОРКІ. 1974.
Тэракота.





бягае да найбольш простых прыёмаў ганчарнай тэхнікі. І заўсёды пры гэтым імкнецца захаваць непарыўную сувязь з народнай творчасцю. Вось адсюль, бадай, і нараджаецца тое падабенства і пачуццё вобразнасці пластычнага ладу народнага ганчарства, унікальнага, непаўторнага па сваёй пластыцы, характару і тэхніцы апрацоўкі. Цікава заўсёды назіраць адну акалічнасць — чырвоная гліна, якая прайшла працэс абпальвання, нечакана набывае новыя рысы: ад работ выпраменьваецца цяпло і душэўная шчодрасць таго, хто ствараў гэтую прыгожасць. Да гліны хочацца нават дакрануцца рукой, і загадзя верыш, што тое ледзь улоўнае цяпло яшчэ трымаецца ва ўсмешцы палешука, у паставе сейбіта.

Кераміст мае свой выразны і індывідуальны почырк. Творы — абагульненыя, часцей тыпізаваныя, але жыццёва праўдзівыя. Пластыка і дэка-

ратыўнасць супадаюць і ствараюць неразрыўны сплаў таленту мастака *і* творчай фантазіі, пачуццё гумару. Па аб'ёму работы невялікія, памерам з кулак, але колькі ў іх жыцця, напружанасці, дынамікі, каларыту, дзіўнай і непадробленай выразнасці!

Параўноўваючы творы М. Пушкара розных гадоў, можна лёгка прасачыць і адзначыць характэрную асаблівасць — мастак расце творча з кожнай работай. Возьмем да прыкладу раннія — «Паляўнічы», «Ветэран», «Ду-





дар». Аўтар стараецца апрацаваць кожную дэтальку вобраза, ледзь не фатаграфічна перадаць падабенства. І пазней сам Пушкар скажа, што гэта былі памылка і недахоп у яго рабоце. А потым вобразы непрыкметна набываюць большую выразнасць, яны раскаваны, у рухах з'явілася смеласць і гнуткасць. У гэтым можна пераканацца, калі глядзіш на «Палешука», «Свата», «Лірніка». Мастак ужо не звяртае ўвагі на правільную прапарцыянальнасць усяго цела, для яго галоўнае — паказаць унутранае святло душы. А дабіцца намечанага дапамагаюць, здавалася б, на першы погляд, ненатуральныя рукі і ногі, шаржыраваны твар. Але, як ні парадаксальна, гэта нам не кідаецца ў вочы, мы чамусьці заўважаем іншае, чаго і дабіваўся мастак.

Адсюль, можа, і складваецца ў каго-небудзь уражанне, што работы



Пушкару даюцца лёгка і хутка. «А гэтая думка ў нечым мае рацыю,— згаджаецца Мікола Пушкар, і твар азараецца хітраватай усмешкай — акурат як у яго «Палешука».— Некаторыя вобразы ўдаюцца за некалькі гадзін, а то і меней. Але гэта працэс увасаблення. Сам жа падыход да сустрэчы з глінаю займае не адзін дзень, а месяцы...»

Так, каб стварыць свае вядомыя ўсім «Вячоркі», мастаку прыйшлося паездзіць па Палессі, зрабіць сотні накідаў, праводзячы вечары ў вясковых хатах. Знайшоў вобразы людзей, «пабудаваў» печ з засланкай і гаршком на прыпечку, але ніяк не мог усё гэта скампанаваць. Прайшоў адзін месяц, другі... І ў нейкі момант «дзед папрасіўся на печ», каб пагрэць старэчыя косці, закінуў нагу на нагу — і тады стала зразумелым, як размясціць і пасадзіць астатніх. Знайшоў сабе месца дудар, побач з ім сеў

БУДЗЕМ З ХЛЕБАМ. 1979.
Тэракота.

ПАСЛЯ РАБОТЫ. 1978.
Тэракота.



барабаншчык, ля яго — балалаечнік. Але хлопцы яшчэ не іграюць, яны толькі настройваюцца, каб потым, як дзяўчаты папрадуць кужаль і вышыюць ручнікі, распачаць у хаце танцы. Тут жа ў юнака ля ног — жорны, у другога — ступа, а маладыя закаханыя прыхінуліся адно да аднаго і, шчаслівыя, думаюць аб нечым сваім. Якая гама пачуццяў! Людзі размясціліся вакол печы. У гэтай кампазіцыі ўжо ясна праглядваецца заканамернасць — нічога пабочнага, што б перашкаджала ўспрыняццю створанага. Работу можна разглядваць і разглядваць, і яна будзе здавацца кожны раз нейкай новай, з незвычайным падтэкстам і каларытам. Тут і вясковы побыт, і жартаўлівы дзед, які абавязкова будзе смяшыць сваімі расказамі вячоркаўцаў. Быццам усе героі, якіх вырабляў мастак з гліны, сышліся на вясёлую бяседу. Іх аб'яднaлі аднолькавыя інтарэсы і вольны час.

ПАРОНКІ. 1978.
Тэракота.

ДАЖЫНКІ. 1979.
Тэракота.



«Вячоркі» — адна з цікавейшых работ М. Пушкара. Яна яшчэ раз даказвае, што мастаку падуладны складаныя кампазіцыйныя вырашэнні.

Да любімага вобраза ганчара мастак звяртаецца не адзін раз, але ніколі не паўтараецца. Кожная работа вылучаецца сваёй навізной, арыгінальнасцю, пластычнасцю. Апошняя работа «Ганчар» — гэта ўжо не скуль-

тура малой формы, а рэльефнае пано. Зроблена яно з гліны, прысутнічае паліва з цёмна-сінім адценнем. Што найбольш уражвае ў гэтым творы? Пранізлівы позірк ганчара і яго рукі, загрубелыя, парэзаныя зморшчынкамі, моцныя і адначасова пяшчотныя. Бачна, як яны дакранаюцца да гладыша, што круціцца на крузе. Ганчар крыху згорблены — гады працы наклалі свой адбітак на яго паставу, ногі з шырокімі ступакамі ўпэўнена круцяць кола. Гладыш і рукі — аднаго колеру. Можна здагадацца, што



не так даўно выняты з печы гладыш яшчэ ўтрымлівае цяпло. Ганчар грэецца гэтым цяплом, убірае яго ў сябе, і яны як бы зліліся ў адно цэлае.

У нейкім сэнсе гэта жартоўны аўтапартрэт. Герой быццам гаворыць нам, што толькі сапраўдны майстар, які раскрыў сакрэты і таямніцы ке-



ЗАЛЯЦАННЕ. 1979.
Тэракота.

ГУСЛЯР. 1983.
Тэракота.

СЯРЭБРАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ. 1981.
Тэракота.



рамікі — старажытнага спалучэння агню, вады і зямлі, здольны стварыць такі твор мастацтва. Можна вельмі шмат гаварыць пра «Ганчара», пра яго выяўленчую дасканаласць і творчы прафесіяналізм, можна ў нечым знайсці і недахоп, але верыцца ў адно — калі хто хоць раз сустрэнецца з гэтым рэльефным пано, то наўрад ці забудзе яго. Надоўга запамінаюцца вочы, рукі і ногі старога, яго мастацтва неабходна людзям, бо яно старажытнае, як свет і зямля, а сёння, на жаль, рэдкая прафесія. І ад таго крыху сумныя вочы ў ганчара, што мала паслядоўнікаў у яго справе, а ён так хоча перадаць маладзейшым сакрэты свайго мастацтва...

М. Пушкар глыбока і дасканала ведае беларускі побыт і звычай, фальклор і народнае мастацтва, традыцыі і ўклад жыцця. Яму ўдаецца адшукаць у жыцці палешука нацыянальныя асаблівасці, уласцівыя толькі бела-



рускаму народу. З глыбіні Палесся, з сівой даўніны цякуць тыя нябачныя рэчкі-рачулкі, якія нясуць творчую даніну мастаку, баюць яму казкі і легенды, песні, а яму толькі застаецца пачуць іх і перанесці на мову гліны. І не толькі пачуць, а і адчуць чалавечы характар. Вось менавіта характар чалавека і стараецца паказаць мастак у сваіх работах. Таму можна падысці да высновы, што гэта і з'яўляецца галоўнай лініяй яго творчасці.

У Міколы Пушкара сваё бачанне жыцця, па-свойму ён і адлюстроўвае яго. Мастак стварае вобразы, адметныя яркай своеасаблівасцю, непаўторнасцю манеры выканання, унутранай глыбінёй. Яго работам уласцівы рысы нацыянальнага характару — мяккі гумар, разважлівасць, жарт, летуценнасць. Кожны твор кераміста — гэта глыбінны пласт фальклорнай вобразнасці. У ім вылучаецца асабістая рыса характару М. Пушкара — любоў да

ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ. 1980.
Тэракота.

БАБІНА ЛЕТА. 1981.
Тэракота.

СЫМОН-МУЗЫКА. 1983.
Тэракота.

чалавечай працы. У сціплай паставе апусціў натруджаныя рукі сейбіт — адна выцягнута ўздоўж цела, а другая абаперлася на сявеньку. А вочы скіраваны некуды ў неба і з такой надзеяй просяць: «Я адсеяўся, аддаў раллі апошняе зярнятка і хачу сабраць восенню ўраджай, каб пракарміць сям'ю. Не падвядзі, дожджык, а я ўжо не пашкадую сваіх сіл для матухны-зямелькі...» Вось такія прыблізна словы чуюцца, калі глядзіш на пуш-





кароўскага «Сейбіта», і таму шчыра верыш, што той дождж, якога так чакае паляшук-сейбіт, абавязкова неўзабаве абрынецца на поле.

У гэтай рабоце найвышэйшая дасканаласць — нічога лішняга і пабочнага, кожная рысачка дапамагае ў раскрыцці вобраза. Тыя ж натруджаныя рукі, і моцна, трывала стаіць ён на зямлі, якая ўскарміла яго, якой ён аддае ўсе свае сілы і мары.

У клопатах простага палешука, у яго непакоях і сумненнях, у жартах і весялосці б'ецца сэрца нашага народа, яго паэтычнасць і духоўны рост.

Мастак пераважна працуе ў жанры дробнай пластыкі, таму і творы яго носяць адбітак камернага характару. Возьмем работу «Гліна спявае». Бадай, і без подпісу зразумела, што хацеў паказаць мастак. Ганчар сядзіць каля сваіх гладышоў і макітраў, узяў у рукі гаршчочак, прыставіў да вуха і слухае. А на твары напісана такое замілаванне... Так можа радавацца

СПРЭЧКА. 1984.
Тэракота.

ДРУЖБАКІ. 1981.
Тэракота.





СЕЙБІТ. 1983.
Тэракота.

ЯРЫЛА. 1983.
Тэракота.

толькі творца, які дасягнуў духоўных і творчых вяршынь. І мы, здаецца, разам з керамістам чуем, як спявае гліна. Можна нават здагадацца і аб мелодыі — яна мажорная, пераклікаецца з ноткамі жарту, гумару, гэта своеасаблівы гімн працы, гімн стваральніку. Вось так камернасць перарастае ў нешта больш значнае і ўстойлівае, і тады мы ўжо адносімся да дробнай пластыкі як да глыбіннага, гістарычнага пласта.

Амаль адначасова з гэтымі работамі нарадзіўся і «Ярыла». Быў такі божышча сонца і ўрадлівасці ў язычніцкай міфалогіі ўсходніх славян. Назва пайшла ад старажытнарускага «яр» — вясна, святло, жар — той, хто грэе, росціць, аплодняе. Ярыла ўяўляўся прыгожым хлопцам, які штораніцы аб'язджаў на белым кані палі, і пасля гэтага ажывала ніва. М. Пушкар стварыў свой сюжэт. Замест белага каня ён увёў нейкіх міфічных звяроў, якія нясуць на сабе падобнага да сонейка Ярылу. І яно, Ярыла-сонейка,



нейкае бязважкае, здаецца, вісіць у паветры. Правая рука выцягнута ўздоўж цела, а левая як бы робіць рух развітання і абяцання хуткай сустрэчы. Увесь матыў перададзены ў вогненным колеры, быццам і сонца, і міфічныя звяры на самай справе вылецелі з нейкага казачнага агню. Узыдзе раніцай сонейка, аздобіць зямлю сваімі цёплымі праменямі — зноў наступіць дзень. Ярыла — гэта жыццё, жыццё з мірным сонцам.

Мікола Пушкар валодае вялікім дарам — адчуваць пульс сённяшняга дня і мінуўшчыны. Ён умее бачыць, вылучаць галоўнае з мноства падзей, фактаў і з'яў. Гэта прыйшло да яго не адразу, а на працягу многіх гадоў, у выніку настойлівай і карпатлівай працы. У мастака выпрацаваўся свой непаўторны, адмысловы стыль работы, вызначыліся свае тэмы. М. Пушкар гаворыць; «Задача кожнага творцы — вылучаць нешта адметнае і цікавае з нашага жыцця, каб паказаць яго людзям. Жыццё наша складаецца

РЫБАКІ. 1983.
Тэракота.

МАРМЫШКА. 1983.
Тэракота.

ПАЛЯЎНІЧЫ. 1983.
Тэракота.

ПАСТУХ. 1984.
Тэракота.





з мноства дробязей — смешных і трагічных, вясёлых і сумных. Часта мы не заўважаем гэтага. Калі пісьменнік піша невялічкае апавяданне, то ён як праз павелічальнае шкло даследуе нейкі канкрэтны эпізод героя ў найвышэйшым яго праяўленні. Вось так прыблізна раблю і я.

Кажуць, што смех прадаўжае жыццё... Бязмежна быў бы шчаслівы, каб у гэтым, хоць крышачку, памагла мая гліна...»

Творчасць М. Пушкара нельга ўкласці ў нейкія традыцыйныя рамкі. Ён пастаянна ў творчым пошуку. То ён працуе над тэмай працы («Каваль», «Паляшук-дрывасек», «Мазырскі рыбак»), то захапляецца вясковым побытам («На базар», «Беларуская бульба», «Каравай», «Прымак», «Снежань», «У госці»). А колькі сюжэтаў створана пра палешукоў-музыкаў! «Гусляр», «Лірнік», «Каляды», «Барабаншчык», «Палескія музыкі», «Мелодыі Палесся», «Дудар», «Балалаечнік». А то цэлыя этапы вяселляў захопліваюць





яго — меднае, бронзавае, сярэбранае, залатое, плацінавае, брыльянтавае... У кожнай рабоце — новае адкрыццё.

Калі вы завітаеце ў мазырскае кафэ пры гасцініцы «Прыпяць», або ў гарадскую паліклініку, ці ў гомельскі «Залаты пеўнік», вы ўсюды сустрэнеце работы Міколы Пушкара, яго вясёлых «Дзеда і бабу», «Сымона-музыку», «Хворага сімулянта», «Пеўня», што з сакавіцкай калюжыны ваду п'е, і выйдзеце на вуліцу з добрым настроем, з добрай усмешкай.

Жыве мастак на Палессі... Сустрэцца з ім — радасць, пагаварыць з ім — задавальненне. Не так даўно Мікалаю Мікітавічу Пушкару споўнілася шэсцьдзесят гадоў. За плячамі нямала зробленага, шмат пройдзена дарог— жыццёвых і творчых. Сёння мастак поўны сіл і здзяйсненняў.

Што заўтра народзіцца ў майстэрні кераміста, што вылепяць яго ўмелыя і працавітыя рукі? Шмат планаў, шмат задум... Хочацца яму стварыць

фальклорныя малюнкі з беларускага побыту чатырох пор года, трынаццаць вяселляў, дванаццаць месяцаў-працаўнікоў, вобраз палешука-мастака, цэлы цыкл персанажаў з творчасці Я. Купалы і Я. Коласа. Да гэтых беларускіх песняроў у яго асобая прыхільнасць. Кампазіцыя «А хто там ідзе?» — у стадыі завяршэння.

Можна было б яшчэ расказваць і расказваць пра творчую дзейнасць цудоўнага майстра і чалавека Міколы Мікітавіча Пушкара. І пра тое, як ён арганізаваў у Мазыры музей народнай творчасці; як свае сакрэты майстэрства ў кераміцы перадае маладзейшаму пакаленню; як аднавіў керамічны цэх на Мазырскай фабрыцы мастацкіх вырабаў; пра тое, што аб'ездзіў усё Палессе ў пошуках старых андаракоў, жорнаў, прасніц, самапрадак для таго ж музея... Але пра ўсё не раскажаш. Ды гэта, бадай, і не трэба. Няхай пра яго лепш раскажуць самі работы — у іх душа і сэрца мастака.

А мы будзем з хваляваннем чакаць сустрэчы з цудоўным чалавекам, мастаком, бо імпануе нам яго дабрыня і жыццёвы аптымізм, мы верым, што новая сустрэча будзе цікавай і карыснай.

Анатоль Бароўскі

На вокладцы:

ПЛАЦІНАВЫ ЎЗРОСТ. 1982.
Тэракота.

ГАНЧАР. 1977.
Тэракота, паліва, рэльеф.

Николай Никитич
ПУШКАРЬ

Автор текста
Анатолий Николаевич Боровский

Минск, издательство «Беларусь»
На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. М. Галубовіч
Рэдактар В. В. Ткачук
Мастак М. М. Грыбаў
Мастацкі рэдактар Б. Е. Ярота
Тэхнічны рэдактар В. У. Харэўскі
Карэктар Г. І. Славінская.

ИБ №3135

Здадзена ў набор 25.01.85. Падпісана да друку 23.07.85. АТ 12275. Фармат 70X108 1/32 Папера мелаваная. Гарнітура часопісная рубленая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,4. Ум. фарб.-адб, 1,92. Ул.-выд. арк. 1,37. Тыраж 1000 экз. Зак. 59. Цана 25 к. Заказное.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.